Год II. Аўторак 3 студня 1922 г. № 2 (10).

**Хто за лепшую будучыну Беларусі, хто за лепшую долю сялянскага люду—галасуйце у Віленскі Сойм!**

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЕС РЕДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „; . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . : 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Як будзе адбывацца галасаваньне.

Галасаваньне ў Віленскі Сойм адбудзецца 8 студня 1922 г. Пачынаецца ў 8 гадзіне на раніцы і без перарыва скончыцца ў 10 гадзіне веч.

Кожны выбаршчык і кожная выбаршчыца павінны на выбарчай картачцы ўпісаць толькі нумар выбарчага ліста, за каторы ён падае свой голас.

Гэты нумар можа быць друкаваны альбо пісаны. Ні якіх іншых надпісаў, альбо подпісаў рабіць на картачцы ня можна.

Галасаваньне будзе адбывацца гэтак:

Выбаршчык, уходзячы ў памяшчэньне, гдзе адбываюцца выбары, падходзіць да стала, за якім сядзіць выбарная камісія, і кажа сваё імя.

Па спраўцы, што гэтае імя ёсьць у выбарчых сьпісках, выбаршчыку дасца канвэрт, ён адходзе ў бок, укладае ў гэты канвэрт прынесяную з сабой выбарную картку і, заклеўшы, зьвяртаецца да стала і падае канвэрт старшыні камісіі, які апускае яго ў выбарную ўрну.

Тымчасам сябра камісіі ў выбарных сьпісках робіць адметку аб тым, што выбаршчык ужо падаў свой голас.

## БЕЛАРУСЫ!

**Вашыя выбарчыя сьпіскі, за якія усе мусіце галасаваць як адзін.**

По Ашмянскаму вокругу
сьпісак № 6.

1. **Аляксюк Павал.**
2. Тарчэўскі Янка.
3. Карэнда Міхал.
4. Буткевіч Пётра.
5. Камароўскі Фэлікс.
6. Стрыга Аляксандар.
7. Субач Францык.
8. Ганусевіч Ігнат.
9. Родзька Андрэй.
10. Чыжэўская Мар'я.
11. Барчоўскі Язэп.
12. Семян Сьцяпан.

По Камайскаму вокругу.
сьпісак № 5

1. **Шышкоу Васіль.**
2. **Бэкіш Янка.**
3. Міхайлаў фядот.
4. Цьвілэнь Марцін.
5. Барсукоў Васіль.

Выбарчы Камісар
Адам Курыловіч.

*Вільня 3 студня 1922 г.*

Прыбліжаецца час выбараў да Віленскага Сойму, і мы цяперака павінны сказаць, што беларусы ўсіх напрамкаў, партыяў і поглядаў абавязкова павінны ісьці на выбары, каб пасласць у Сойм сваіх прадстаўнікоў, бо гэта адзін шлях, якім яны могуць бараніць свае нацыянальныя інтэрэсы, дабівацца лепшай дзеля сябе долі.

Ці мы можам у гэты час дабівацца сваіх правоў з аружжам у руках? Дзе ў нас тая ваенная сіла, якая-б магла гэта зрабіць?

Ці мы можам мець якую-кольвек надзею на тое, што нашы нацыянальна-палітычныя мэты будуць вырашаны Антантай, Лігай Народаў, Амэрыкай, ці кім іншым, якія амаль нічога ня ведаюць аб Беларусі, ня ведаюць яе граніцаў, ня ведаюць яе эканамічна - гаспадарскага становішча, яе першых жыцьцёвых патрэбаў? Што могуць зрабіць для нас тыя, для якіх яшчэ цяпер навет Польшча, шмат вялікшая ад Беларусі, дагэтуль зьяўляецца старым „Прывісьлянскім краям" з няведамым абшарам, няведамымі граніцамі?

Ласьня-ж, гісторыя апошніх часоў ня зьяўляецца лішнім довадам таго, што ўсе гэтыя Антанты і Лігі Народаў яшчэ нічога не зрабілі для так званых „малых народаў?

Адсюль выходзіць, што ня ў іх мы павінны шукаць для сябе помачы, бо яны нам яе ня дадуць.

А дзеля ўсяго гэтага мы гаворым, што адным шляхам нашае барацьбы, ёсьць шлях парлямэнтарный.

Толькі там, у Соўме, праўдзівыя сыны беларускага народа будуць праўдзівымі абаронцамі сваёй Бацькаўшчыны.

✦✦✦✦

## ТЭЛЕГРАМЫ.

ХАРКАЎ. 1. XXI. (А. В.) Па прычыне недастачы, харчоў, камісарыят аправіацыі Савецкай Украіны вызначае вялікі спадак збору ад палавіны кастрычніка да гэтага часу. Да дня 20 сьнежня сабрана з цэлай Украіны ўсяго 57 мільёнаў пуд. збожжа.

МАСКВА. 1. 1. (А. В.). Бюджэт, Расейскай Фэдэрацыйнай Рэспублікі за час ад месяца студня да верасьня леташняга году зацьверджаны. Па прычыне такога бюджэту, даходы гаспадарства дасягаюць да 1 мільярда рублёў ў золаце, а выдаткаў больш як мільярд васемсот тысячаў.

МАСКВА 1.1. (А. В.). Лік галодных дзяцей ў Екатэрынаслаўскай губэрніі па афіцыяльным данным даходзіць да 45 тысячаў.

ХАРКАЎ 1. 1. (А. В.) Дня 26 сьнежня забіта ў Харкаве 15 асоб, завінавачаных у бандытызму і грабяжу.

ВАШЫНГТОН 1. 1. (А. В.) Конфэрэнцыя, апрочь Францыі прыняла пастанову аб аграніченьні ўмясьцімасьці ўсіх вайсковых караблёў, апроч лінейных і паветраных да 10 тысячаў тон.

ПАРЫЖ 2.1. (А. Б.) Француская ўрады і ангельскія зрабілі пастанову аб тым, што нямецкі ўрад мусіць у 1922 годзе зрабіць 4 тэрміны, к выплаце страт, па 125 мільёнаў марак у золаце. Тэрміны выплаты: 15 студня, лютага, красавіка і сакавіка.

— 2.1. (А. В.) Распачаліся тут рады конфэрэнцыі гаспадарчай. Францускія і ангельскія дзеячы апрацавалі плян адбудовы Эўропы, якім будуць прадстаўлены правы італьянскім уралам.

ЖЭНЕВА 2. 1. (А. В.) Ковенскі Урад зрабіў протэст у Радзе Лігі Народаў проці выбараў ў Віленскі Сойм.

БЭРЛІН 2. 1. (А. В.) У Нямеччыне зялезна-дарожная забастоўка захапіла навет бэрлінскую дырэкцыю, Норбунд-Эсен, Гагэн, а так сама і іншыя заходнія дырэкцыі.

Паміжнарадовая камісія зрабіла пастанову падаць інтэрвэнцыю ў справе забастоўкі, і даручыла дырэкцыям падаць ліст асоб. якім будзе забароняна працаваць на зялезнай дарозе.

✦✦✦✦

## Скуль усе бярэцца.

(Гутарка двох сялян.)

Першы: Скуль гэта ўсё бярэцца?

Другі: Што, братка?

I А ўся гэтая лаянка, ў некаторых газэтах друкуецца, дый разам с тым, маніфэсты пішуцца, зямля і слабода раздаецца.!.

II. А-а! Дагадваюся. —Ты, мусіць хочаш спытаць аб тых, што беларускімі міністрамі і старшыням ўселякімі завуцца ды па заграніцах ездзяць і нашай сялянскай доляй таргуюць, а тутака сваіх агентаў панасылалі?

I. А-я й ня вэдаю... Ці-ж гэта яны?..

II. Хіба што яны... А то хто-ж балей...

I. Ну дык скажы-ж ты мне, чаго яны хочуць і чаго гэтак брыдка, нават горэй, як апошні лайдак, лаюцца?

II. Чаго яны хочуць?.. Ну ведама чаго—марачак.,. I нямецкіх, і остаў, ды й усё роўна якіх, хоць і савецкіх ім падавай, абы марачкі...

I. Дык як гэта? Мо і ўсякі захацеў бы гэтых самых марачак, як ты кажаш, але ці-ж іх толькі за тоя можна даставаць, каб лаяцца?

II. А чаму-ж не!? —Вось, прыкладам кажучы, калі Прануку Канцавому трэба збэсьціц Рыгора Сярэдняга, дык гэты Пранук, значыцца, з ахвотаю табе кварту паставіць, каб ты за яго гэтую прыкрую работу зрабіў...

I. Ага, разумею. Тутака, знакам тым, нейкім немцам ці маскалям, ходзіць аб тое, каб збэсьціць беларусаў, дык яны й панаймалі розных „міністараў" і „старшынь" дзеля гэтай работы...

II. Ну але-ж, але.

I. Ага... Разумею... Толькі, чакай... А яны, так сама беларусы?

II А як жа, праўду кажаш, толькі трэба казаць „тоже бѣлоруссы", а не таксама беларусы...

I. Ня разумею...

На тоя-ж яны і разлічаюць, што многія з нас у гэтых справах мала разумеюць... Ну я табе вытлумачу, дзеля прыкладу возьмем хаця-б першага лепшага „міністра" з ураду, так званай, „Беларускай Народнай Рэспублікі", ну хаця-б Цьвікевіча, ці Крычэўскага, ці Захарку, ці Валькoвіча. —Служылі сабе ўсе яны пры цары Мікалаі, хто чыноўнікам, хто пісарам, хто якім небудзь агентам... Елі хлеб з маслам і Бога за цара малілі. Але калі цара не стала, а да хлеба з маслам прывычка ў іх засталася, дык вось, ўсе яны прыйшлі да нас і сказалі: —Мы тоже бѣлоуссы. Мы хотім послужыть своей родінѣ вѣрой і правдой.,.

Іх прынялі, ведама, шкада людзей... Але бачым, тут пасулілі ім ткі сапраўды верныя прыслужнікі нямецкага і расейскага царызму, ня толькі хлеб з маслам, а яшчэ і добрую чарку на кожны дзень, і крыху марачак на дробныя выдаткі..

I. Каб яны, значыцца, прадаліся ім?

II. На што яны ім?. Яны хочуць каб тыя ды нас прадалі. Цябе, мяне і ўсіх, усю Беларусь.

I. Дык ты думаеш яны ткі і сапраўды патрапяць нас прадаць?

II. Патрапіць — непатрапяць, бо гэта ад нас залежыць. Мы ўжо добра пазналі смаку яд маскоўскага панаваньня цароў Мікалая і Троцкага і нямецкага Вільгельма — недачэканьне іх, не дамося больш у гэтыя капцюры!

I. Дык, знакам тым, выходзіць так, што «Сабака брэша — вецяр носіць», а нам трэба ісьці сваёю дарогаю дый годзі.

II. Толькі і ўсяго.

I. Дык значыць, 8 студзеня ідзеш на выбары?

II. Хіба, што так.

I. I падаеш свой голас за сьпісак № 6?

II. **Толькі за сьпісак № 6.**

I. I я так думаю, але бачыш, зьдзівіўся крыху: тут беларусы ідуць у Сойм, і выстаўляюць свой спісак, а другія, так сама беларусы, лаюцца, хоць ты абразы

